


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (1091) ГОД XXII БЕЛАСТОК 23 СТУДЗЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




## ЗАЧАРАВАНАСЦЬ

*I не надыхацца табою,*
*Не наглядзецца на цябе*
*Ў часы зялёнага прыбою*
*I ў ціхай восеньскай журбе,*

*Калі асіннік пазалоту*
*Рассыпле шчодра па зямлі,*
*Калі пачатак пералёту*
*Пратрубяць гучна жураўлі,*

*Калі лясныя балаціны,*
*Чарнічнік, верас, буралом,*
*Мярэжы тонкай павуціны*
*Блішчаць халодным серабром.*

*Усё замерла і застыла,*
*Гараць брусніцы каля пня,*
*I не шумяць тугія крылы —*
*Наўкол спакой і цішыня.*

*А ў ранішняй туманнай стыні*
*Дрыжыць у сетцы павучок,*
*Зрываецца з галіны іней,*
*I пад нагой трашчыць сучок.*

*Ударыць ноччу завіруха,*
*На пні сумёты наметце,*
*Ад сцюжы дуб застогне глуха,*
*I сціхне ўсё у немаце.*

*Яліны ў срэбраных шаломах*
*Застынуць у дзівосным сне,*
*А дзяцел у тваіх харомах*
*Зноў тэлеграму б'е вясне,*

*Каб абвясціла звонкім свістам*
*Канец зімы і свой прыход,*
*Каб маладым зялёным лістам*
*Шлях адкрывала з году ў год*

*Усім, хто з выраю вярнуўся,*
*Усім, хто дома гнёзды ўе,*
*Каб лёгка жураўы і гусі*
*Знайшлі прыстанішчы свае.*

*Зачараваны я разьбою*
*Лістоў на дубе і вярбе,*
*I не надыхацца табою,*
*Не наглядзецца на цябе.*

**Сяргей Грахоўскі**



*I прыйшла зіма на беластоцкую „старувку"...* Фота С. Рыбі.



## У Прэзідыуме ГП БГКТ

30 снежня мінулага года адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На ім была абмеркавана справаздача аб рэалізацыі плана працы Прэзідыума ГП БГКТ за мінулы год і зацверджан план працы на першае паўгоддзе бягучага года. Між іншым, плануецца ў красавіку правесці вясеннюе пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення. Будзе яно прысвечана далейшаму развіццю аматарскага руху.




Даўно не была тут. Калегі кажуць: паедзем на тваю радзіму — у Орлю. Не тлумачуся, што паляшучка я, і радзіма мая на скраі Белавежскай пушчы. Але і Орля — мая радзіма. I мне прыемны гэты факт.

Разбудавалася Орля, у шыр праўда, але таму ў кожнага над галавой чыстае неба і свежае паветра. Стала Орля вялікім гмінным цэнтрам.

Пасляваенная Орля была мястэчкам людзей наплывовых (такой у Орлі была і мая сям'я). Але велізарная добразычлівасць, адкрытасць і сіла асіміляцыі сапраўдных арлянцаў была першай і найважнейшай прычынай, што з'язджаўшыеся з усяго свету, найчасцей бедныя і бяздомныя людзі, зліліся ў Орлі ў адно з даўнейшымі, ганарыстымі „мяшчанамі" з гучнымі прозвішчамі: усімі тымі Русіновічамі, Ярымовічамі, Несцяровічамі, Якімовічамі. Такое прозвішча — тут гонар і права да гэтых глiнястых пшанічных земляў, якія арляне скіба за скібай варочаюць, цяпер ужо трактарамі. I з гэтай крыніцы чэрпаюць сілы і грошы на супермэблю, на віллы, на ванны. Ёсць іншая крыніца працы і грошай у Орлі — кафлярня. Але многа сапраўдных гаспадароў у Орлі жыве штораз лепш, штораз культурней з зямлі. Напрыклад, адзін з найлепшых гаспадароў у Орлі і ў гміне — Аляксандр Ярымовіч, малады, неспакойны чалавек. Пабывала я цяпер у яго хаце. Люксус. Чысціня. Парадак у хаце і ў гаспадарцы. Пакоі, ванна, бягучая вада, краны.

Так з працы родзяцца амбіцыі лепш жыць, а з лепшага матэрыяльнага жыцця выцякаюць патрэбы духоўныя, якія ў арлянцаў вельмі відочна праяўляюцца ў паўсюднай чысціні, парадку, акуратнасці ў хатах і ў адзежы, багацейшай мове, ветлівых адносінах не толькі да госця, але і паміж сабой, што куды важнейшае!

✲

Думалі мы з сябрам хутка пакінуць Орлю. Думалі яшчэ дзе-куды пад'ехаць, а выйшла так, што многа каго і чаго наведалі ў Орлі і... добра. Зусім нечакана сустрэла я ў Орлі калегу з ліцэя — Росціка Анацэвіча, так яго называлі ў школе, так пазволю і цяпер, у маім рэпартажы, пасля дваццацігадовага расстання пасля матуры ў Бельскім беларускім ліцэі, назваць яго — новага дырэктара спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Орлі. Больш увагі хачу, аднак, цяпер тут прысвяціць намесніку Расціслава Анацэвіча па справах сельскагаспадарчай прадукцыі арлянскага СКР — маладому магістру інжынеру Аляксандру Тапольскаму. Захапляе дынамізм гэтага чалавека, скрышталізаваны погляд на арлянскі гаспадарчы цэнтр, на максімальнае выкарыстанне ўсіх тутэйшых магчымасцей і рэзерваў. Адна вялікая справа ўжо рэалізуецца.

(Працяг на стар. 4)




**З невычэрпных крыніц ● Сяржанаўская ніць залатая ● Беларускі каляндар — 77 ● У беларускім цэнтры дзіцячай хірургіі ● Гарцэры — сабе і грамадству ● Запрашэнне на экскурсію ● Сёе-тое аб пушчанскай гаспадарцы ● Весткі з Бельска, Гайнаўкі, Васількова, Саколкі, Навасадаў, Парцава, Спічкаў, Пачапка, Старога Ляўкова ● Калі сніцца новая белая блузачка ● Песня „Dziewczyny takie są".**

## БЕЛАСТОЧЧЫНА-77

Найперш адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта ПАРП, пасля сабраліся радныя Ваяводскай рады, а затым — ужо ў першай палавіне студзеня — на ўсіх прамысловых прадпрыемствах праходзілі сходы камісій рабочага самакіравання (КСР). Тэма адна: як мага лепш увайсці ў 1977 год.

Вось менавіта, якія жыццёвыя перспектывы адкрывае для нас, жыхароў Беласточчыны, гэты год?

З таго, што ўдалося мне сабраць, устанавіць і падслухаць, вынікае, што будзе гэта, нягледзячы на ўсе нашы цяжкасці, год далейшага паспяховага развіцця гаспадаркі Беластоцкага ваяводства і будзе гэта адначасова год павышэння зажытачнасці кожнага з нас. Прадбачваецца, што грашовыя даходы насельніцтва Беласточчыны павялічацца больш чым на 10 працэнтаў і складуць суму 20,5 мільярдаў злотых. Прычым даходы сялян маюць быць вышэйшыя ад даходаў гарадскога насельніцтва.

Гэта лікі ўжо такой велічыні, што перавышаюць магчымасці нашага ўяўлення. Дык можа варта ведаць, што гэтых грашовых даходаў поўнасцю хопіць насельніцтву Беластоцкага ваяводства, каб купіць усё тое, што мае намер прапанаваць нам гандаль у сваіх магазінах, ды яшчэ застанецца нам звыш 4 мільярдаў злотых, якія мы зможам скласці ў ашчадную касу.

Урэшце поўным ходам пачне ў гэтым годзе працаваць аграмадны цукровы завод у Лапах, з якога атрымаем 62 тысячы тон цукру і 20 тысяч тон так званай меласы. Гэтае ж самае адносіцца да беластоцкай мэблевай фабрыкі і новага беластоцкага філіяла фабрыкі станковых патронаў (ухвыты), амаль усю прадукцыю якога высылаюць на экспарт у Савецкі Саюз.

Беласток памалу становіцца цэнтрам высокадакладнай электроннай прамысловасці. У руках беластоцкіх дзяўчат і юнакоў будуць ствараіца шматлікія часткі і цэлыя вузлы новага польскага каляровага тэлевізара, і таму прадбачваецца хуткая разбудова прадпрыемства па вытворчасці тэлевізійных часцей. Разбудаваны будуць таксама чыгуначныя прадпрыемствы ў Старасельцах і Лапах. Асабліва старасельскае прадпрыемства сваімі вырабамі праславілася на будове чыгуначнай станцыі Варшава Цэнтральная і ў гуце „Катавіцы". Цяпер яно перастаўляецца на болей складаную вытворчасць. Будзе будаваць пад'ёмныя краны.

Пашыраюць сваю жыццёвую прастору такія закаранелыя ў нашым прамысловым краяглядзе прадпрыемствы, як „Фасты", „Сяржан" і „Біруна". У „Фастах" плануецца перш за ўсё ад-

(Працяг на стар. 4)

## Наша галерэя



*П. Сергіевіч. Асушка балота.*

## ШТО НОВАГА?

### У Эфіопіі

Усё больш трывала замацоўваецца новае ў жыцці адміністрацыйнага цэнтра эфіопскай правінцыі Кафа — радзімы кофе — невялікага гарадка Джымы. Раней, да звяржэння феадальна-манархічнага ладу, Джыму акружалі кафейныя плантацыі, што належалі памешчыкам. Сяляне, якія працавалі на іх, жылі ў беднасці, гінулі ад эпідэміі. Па вуліцах Джымы хадзілі хворыя, жабракі і беспрытульныя. Паўтара мільёна жыхароў правінцыі гібелі, каб забяспечыць раскошнае жыццё жменьцы памешчыкаў, чыноўнікаў і купцоў. Сёння на вуліцах Джымы не сустрэнеш жабракоў і беспрытульных. Уся зямля ў правінцыі нацыяналізавана, ва ўласнасць народу перайшлі сядзібы і асабнякі багатых.

Гутарка з галоўным адміністратарам правінцыі Кафа адбываецца ў яго кабінеце. „Калі хочаце ведаць, як мы тут жывём, — гаворыць ён, — адпраўляйцеся ў Шэкі — гэта кіламетраў за дваццаць ад Джымы. Там намячаецца мітынг, у якім прымуць удзел прадстаўнікі 86 сялянскіх асацыяцый. Дэкрэтам аб аграрнай рэформе яны надзелены шырокімі паўнамоцтвамі і выконваюць ролю органаў новай улады на месцах. У нашай правінцыі цяпер больш як 1 400 асацыяцый, у якія ўваходзіць звыш 400 тысяч сялян“.

Раніцай да гасцініцы прыпыліў старэнькі „усюдыход“, і мы адправіліся ў цяжкі шлях па дарогах, зрэзаных выбоінамі.

Па дарозе сустракаюцца групы сялян, якія накіроўваюцца на мітынг. Наш „усюдыход“ забіты да адказу. Народ усхваляваны маючай адбыцца падзеяй.

Мы не заўважылі, як уехалі ў Шэкі. Гэта паселішча — адна вуліца, па абодвух баках якой — глінабітныя дамы з павецямі ад гарачага сонца. Перад будынкам школы — невялікая плошча. У цяньку раскідзістага фігавага дрэва паставілі стол і крэслы, а перад імі пачалі размяшчацца на цёплай зямлі ўдзельнікі мітынгу.

Першым выступаў раённы адміністратар Касахун Айелу, які расказаў прысутным аб задачах і функцыях сялянскіх асацыяцый. Пасля кожнай фразы ён рабіў паўзу, каб даць магчымасць перакладчыку растлумачыць сэнс сказанага сялянам-гала, якія складаюць большасць насельніцтва Кафы, дзе жывуць таксама амхары, кафа і куло. Дзяржаўная мова Эфіопіі — амхарская. Яна адна сярод моў народнасцей, якія насяляюць Эфіопію, мае пісьменнасць.

На мітынгу не было пышных прамоў. Ішла дзелавая размова, і сяляне задавалі шмат пытанняў прадстаўнікам мясцовай адміністрацыі, стараючыся ўнікнуць як мага глыбей ва ўсё сказанае. Яны не толькі цікавіліся новай урадавай палітыкай, але і патрабавалі ад мясцовых улад рашэння набалелых пытанняў — паляпшэння водазабеспячэння і дарог, дастаўкі насення, угнаенняў і сельскагаспадарчай тэхнікі, абмяркоўвалі цэны на кофе і лаялі пасрэднікаў-перакупшчыкаў. Па ўсім было відаць, што яны лічаць новую ўладу сваёй і адносяцца да яе па-гаспадарску, прыдзірліва, а калі крытыкуюць, то яўна з мэтай дабіцца лепшых вынікаў.

Пакуль мужчыны мітынгавалі ў цяньку фігавага дрэва, у дамах і на пляцоўках перад імі, утаптаных босымі нагамі да асфальтавага бляску, кіпела жыццё: жанчыны падмяталі падлогу, прасейвалі тэф (від проса), таўклі зерне ў высокай драўлянай ступе, хлопчыкі цягалі галлё для сямейнага ачага, дзяўчынкі насілі ваду ў вялікіх гліняных збанах.

Ля школы тоўпіліся дзеці з падручнікамі і сшыткамі. Пад павеццю аб чымсьці ажыўлена гутарылі юнакі ў паўвайсковай форме зелянковага колеру — удзельнікі нацыянальнай працоўнай кампаніі „Развіццё праз супрацоўніцтва“, якая шырока праводзіцца ў Эфіопіі. Мы разгаварыліся. Юнакі расказалі, што ў іх задачы ўваходзіць палітычная і выхаваўчая работа, накіраваная на ажыццяўленне ўрадавых дэкрэтаў, і ў першую чаргу дэкрэта аб аграрнай рэформе, аказанне садзейнічання ў фарміраванні сялянскіх асацыяцый, прапаганда новых метадаў вядзення сельскай гаспадаркі, барацьба з непісьменнасцю і хваробамі, дапамога сялянам у іх нялёгкай працы. З дапамогай жыхароў сельскіх раёнаў студэнцкія атрады будавалі школы і бальніцы, пракладвалі дарогі, узводзілі масты, капалі калодзежы. У Кафе яны пабудавалі каля ста новых школ, у якіх займаюцца 10 тысяч чалавек, ва ўзросце ад 6 да 60 гадоў. Усё гэта парасткі новага ў Эфіопіі, якая будуе грамадства, свабоднае ад эксплуатацыі, грамадства, заснаванае на роўнасці і справядлівасці.

**Ю. Успіменка,**
карэспандэнт ТАСС

## У СУЧАСНАЙ ЛІДЗЕ

Спатканне з Лідай для новага чалавека — гэта спатканне з нечаканасцямі і адкрыццямі.

Калі набліжаешся да гэтай мясцовасці ўпершыню і здалёк, міжволі думаеш: „Што ж, мястэчка гэтае, праўда, старажытнае, бо метрыку сваю выводзіць сама меней з XIV стагоддзя, але ніколі ў сваёй доўгай гісторыі вышэй колішняга павету і сённяшняга раёна ў адміністрацыйнай ролі не ўзвышалася. Вось зараз буду крочыць па яго цэнтральнай вуліцы, густа заросшай старымі дуплястымі ліпамі, на вузенькім ды шчарбатым тратуарчыку пачну размінацца з рэдкімі праходжымі, а яшчэ радзейшыя машыны, выскачыўшы нечакана з-за крывой шарэнгі аднапавярховых домікаў, ахутаюць мяне хмарай пылу“. І адно толькі сышоўшы з цягніка і апынуўшыся на вуліцы Міцкевіча, адной з галоўных вуліц Ліды, адкрываеш, што, а як жа ж, паўз яе густа кучаравяцца нядаўна пасаджаныя маладыя ліпкі, побач гладкага шырокага тратуару, па якім густа снуюцца людзі, прасціраюцца дагледжаныя газоны і клумбы, а па прасторнай асфальтаванай маставой патокам плывуць гарадскія аўтобусы, легкавыя машыны, грузавікі, пільна зважаючы на скрыжаваннях на мільгаценне каляровых вачэй светафораў... Словам, перад табой людны сучасны горад, забудаваны чатырох-, пяці-, шасціпавярховымі дамамі, з добра запланаванай сеткай відных вуліц, частымі магазінамі, установамі бытавога абслугоўвання, з індустрыяльным тэхнікумам, васьмю сярэднімі агульнаадукацыйнымі школамі, трыма кінатэатрамі, чатырма дамамі культуры, шматлікімі клубамі і іншымі культурна-асветнымі ўстановамі. Узровень жыцця лідчан зусім не ўступае ўзроўню жыхароў вялікіх метраполій: вялікая цеплацэнтраль забяспечвае горад цэнтральным ацяпленнем і гарачай вадой, у кожнай кватэры гарадскі газ, густая сетка прыватных тэлефонаў, дасканалая сувязь з Гродна, Мінскам, Масквой і іншымі гарадамі дзякуючы значнай колькасці пасажырскіх цягнікоў, аўтобусаў і ўласнаму аэрадрому, з якога праз кожныя некалькі гадзін адлятаюць ці прызямляюцца на ім пасажырскія самалёты. І тут, прызнаюся, я ўжо зусім не здзіўлюся, калі на разлепленых па гораду афішах прачытаў, што прыбывае ў яго на выступленні адзін з самых модных у гэтым сезоне маскоўскі эстрадны ансамбль.

Горад Ліда — значны эканамічны цэнтр — вырас на дзвюх моцных асновах: выспецыялізаванай у малочна-мясной жывёлагадоўлі, свінагадоўлі, ільнаводстве, вырошчванні бульбы і збожжа сельскай гаспадарцы раёна і сучаснай, дынамічна развіваючайся прамысловасці. У Лідзе знаходзіцца самы вялікі ў Беларусі завод па вырабу розных фарбаў і лакаў. Ён свае вырабы кіруе не толькі на патрэбы Беларусі і іншых рэспублік СССР, але і ў амаль 20 замежных краін, у іх ліку ў Японію, Чэхаславакію, Балгарыю і інш. Лідскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання вядомы ў СССР і па-за яго межамі як вытворца самых сучасных машын для капання бульбы, збірання капусты і іншай гародніны. Не меншай папулярнасцю карыстаецца і прадукцыя, якая сыходзіць з канвераў Лідскага завода электравырабаў, Лідскай абутковай фабрыкі, а таксама Лідскага завода жалезабетонных вырабаў і іншых прамысловых прадпрыемстваў. А ў бліжэйшых планах развіцця гэтага 60-тысячнага горада знахо-

(Працяг на стар. 5)



## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 22.I.77 r.** 11.30 Film fab. 15.20 Red. szk. zap. 15.30 Pr. dnia. 15.35 Inf. Wyd. 15.50 Dla dzieci. 16.20 Radzimy rolnikom. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Sobota Młodych. 18.00 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Daleko od szosy — film ser. 21.55 Dobry wieczór tu Łódź — pr. rozr. 22.50 Dziennik 23.05 Dziewczyna na motocyklu — film fab. ang.

**Niedziela — 23.I.77 r.** 8.00 Now. w domu i zagr. 8.25 Sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 HOROSKOP na cały rok 1977. 10.30 Antena. 10.55 HOROSKOP — BARAN. 11.00 Wielkie Bitwy Historii — film dok. 11.55 HOROSKOP — BYK. 12.00 Dziennik. 12.20 Rolnicze rozmowy. 12.50 Muzyka i ekran. 14.00 HOROSKOP — BLIŹNIĘTA. 14.05 Piórkiem i węglem. 14.30 HOROSKOP — RAK. 14.35 Dla dzieci. 15.20 HOROSKOP — LEW. 15.25 Los. Dużego Lot. 15.40 HOROSKOP — PANNA. 15.45 Wielka gra. 16.40 HOROSKOP — WAGA. 16.50 Sport. 17.50 HOROSKOP — SKORPION. 17.55 Tele-Echo. 18.55 HOROSKOP — STRZELEC. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 HOROSKOP — KOZIOROŻEC. 20.35 Bajka dla dor. 20.45 HOROSKOP — WODNIK. 20.50 Wojna i pokój — film ser. 21.35 HOROSKOP — RYBA. 21.40 Pr. rozr. 22.30 Sport.

**Poniedziałek — 24.I.77 r.** 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.40 Lekt. Pegaza. 18.00 Dźwig — film T.V. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr. L. Werner „Berneńska wolność”. 22.00 Camerata. 22.40 Dziennik.

**Wtorek — 25.I.77 r.** 10.00 Dla szkół: J. pol. kl. II. lic. J. Słowacki „Balladyna”. 11.30 Wojna i pokój — film ser. 12.55 Dla szkół: Rodzina współcz. 15.55 Program dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.00 Studio Mł. 17.50 Interstudio. 18.25 Wędrowcy — pr. muz. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Kobiety Wardinów — film. ser. 22.05 Czarne słońce Kolumbii — pr. muz. 22.40 Dziennik.

**Sroda — 26.I.77 r.** 11.30 Przygoda nad Morzem Czarnym — cz. I. filmu fab. rum. 15.50 NURT. 15.55 Program dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.30 Los. Małego Lot. 17.55 Listy i polityka. 18.30 Stare i nowe pastorałki. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy Bergmana — Dotknięcie. 22.25 Serenady wieczorne. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 27.I.77 r.** 11.30 Przygoda nad Morzem Czarnym — cz. II filmu fab. 12.55 Dla szkół. J. pol. kl. II—IV lic. Dramat. 15.55 Program dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.35 Wojskowa Akademia Techniczna — rep. 17.55 Teatr. G. B. Shaw „Wiejskie zaloty”. 18.35 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Columbo — Kandydat na fotel — film fab. 21.10 Pegaz. 22.55 Dziennik.

**Piątek — 28.I.77 r.** 11.30 Cicha woda — film fab. ZSRR. 15.50 NURT. 15.40 Inf. Wyd. 15.55 Program dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.45 Eureka. 18.20 Świat, który nie może zaginąć — film dok. 18.45 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Z cyklu: Miłość niejedno ma imię — film pt. „Trudne powroty”. 22.00 X Y Z cz. I. 23.00 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 21.I.** — 8.00 Film fab. 13.20 Film fab. 16.15 Film fab. 17.50 Nasza biografia. Rok 1928. 19.30 Koncert. S. Rychtera. 20.15 Sport.

**Sobota 22.I** — 9.55 Koncert. 12.30 Film fab. 17.25 Koncert finałowy fest. „Piosenka-76”. 20.45 Sport.

**Niedziela 23.I** — 11.30 Film fab. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.20 Film fab. 19.30 Koncert. 21.00 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Afonia — radz. 25—26. Pat Garett i Billy Kid — USA 27—28. Dom — jug. 29—30.

**Bielsk Podl.** Wrzos — pol. 25—28. Ocalič miasto — pol. 29—30.

**Czyże** Drzewo bez korzeni — buł. Hitler z naszej ulicy — jug. 26—30.

**Dublicze Cerkiewne** Czarodziejskie dary — NRD. Królewskie marzenie — USA 26—30.

**Gródek** Afonia — radz. 29—30.

**Kleszczele** Na przykład Józef — NRD 25—26. Tak szalona, że może zabić — fr. 27—28. Smuga cienia — pol. 29—30.

**Michałowo** Noc amerykańska — fr. 25—26. Węgorz za 300 milionów — wł. 27—28. Hazardziści — pol. 29—30.

**Mielnik** Britania w niebezpieczeństwie — ang. 26. Mgła nie ukryje zdrajcy — rum. 29—30.

**Milejczyce** Siedem dziewcząt kaprala Zbrujewa — radz. Motylem jestem, czyli romans 40-latka — pol. 25—30.

**Narew** Być kobietą — radz. Miłość bywa zbrodnią — wł. 26—30.

**Narewka** Granica miłości — — węg. Premia — radz. 26—30.

**Nurzec** Mój kochany mąż i ja — 25—26 NRD. Sandakan Nr 8 — jap. 27—28. W środku lata — pol. 29—30.

**Orla** Sciana — rum. Osaczeni w dolinie. — czes. 26—30.

**Rajsk** Dzień szakala — ang. Kajtek i nowy braciszek — węg. 26—30.

B.Z.Graf. Zam. 108 B-4

# У прыяцеляў Белавежы

Заўжды актыўнае Таварыства прыяцеляў Белавежы ў апошнія гады крыху звольніла тэмп. Ды, праўду кажучы, у параўнанні з іншымі грамадскімі арганізацыямі, існуючымі ў Белавежы, яго праца выпадае зусім карысна. Нягледзячы на тое, што члены праўлення таварыства былі моцна заняты сваёй прафесіянальнай працай, а таксама агульны лік членаў з 52 у 1972 г. панізіўся да 33 у канцы 1976 г., праведзена шэраг цікавых мерапрыемстваў.

У ліпені 1972 г. быў арганізаваны ў Белавежы кірмаш вырабаў ганчара Лявона Саласцюкевіча з Кляшчэляў. Яго папулярныя „сівакі" трывала прыжыліся тут. Пастаянна прадаюцца ў павільёне з сувенірамі. Летам жа 1973 года быў агароджаны валун, вызначаючы геаметрычны цэнтр Белавежскай пушчы. У наступным годзе было прачытана некалькі лекцый, спалучаных з дэманстрацыяй дыяпазітываў.

У сакавіку і красавіку 1975 г. таварыства супольна з Прыродазнаўчым музеем БНП арганізавала выстаўку „Турысцкія, інфармацыйныя і папулярна-навуковыя выданні аб Белавежскай пушчы 1925-1975 г.г.", якую наведала каля 5 тыс. турыстаў і экскурсантаў. У маі таго ж года адбыліся іншыя мерапрыемствы таварыства — дэманстрацыя савецкіх папулярна-навуковых фільмаў, рэалізаваных у пушчы, і сустрэча з беларускім вучоным-міколагам др Паўлам Міхалевічам і ветэрынарам Уладзімірам Гаеўскім.

У мінулым годзе, у сакавіку, быў арганізаваны конкурс на найлепшы збор каляровых дыяпазітываў аб Белавежы. Пераможцы — Васіль Скепка, Яцэк Высмулэк і Ян Рачынскі атрымалі ўзнагароды. У жніўні члены таварыства прымалі ў Белавежы 50-асабовую групу студэнтаў — удзельнікаў лагера-семінара „Сустрэча з Беласточчынай". Дэманстравалі ім фільмы У. Пухальскага, адказвалі на шэраг пытанняў, якія датычылі Белавежы і пушчы.

У далейшым праходзіла традыцыйная форма дакладаў з дэманстрацыяй дыяпазітываў з серыі „Свет вакол нас". Іх удзельнікі пазнаёміліся з Фінляндыяй, Швейцарыяй, Японіяй і Паўднёвай Амерыкай.

Увогуле таварыства ў апошнія гады арганізоўвала ў сярэднім ад 5 да 10 мерапрыемстваў у год. Вяло таксама вітрыну, у якой змяшчала артыкулы аб Белавежы і ахове прыроды, цесна супрацоўнічала з мастацкімі белавежскімі пленерамі. Важным акцэнтам у дзейнасці ТПВ з'яўлялася і з'яўляецца ў далейшым продаж серыі ўласных брашур пад супольным загалоўкам „Усё аб Белавежы". Да сённяшняга дня прададзена іх каля 7 тыс. экземпляраў. Іншым выданнем, падрыхтаваным членамі ТПБ, з'яўляецца карта Белавежскай пушчы. Зараз заканчваецца продаж III выдання, г. зн. што ўжо 60 тыс. экземпляраў гэтай карты знаходзіцца ў руках краёвых і замежных экскурсантаў і турыстаў. Падрыхтоўваецца IV выданне карты Белавежскай пушчы.

У канцы мінулага года ў таварыстве адбыўся справаздачна-выбарны сход, на якім было выбрана новае праўленне. Старшынёй застаўся дац. др Януш Багдан Фалінскі, яго намеснікамі — мгр Эва Варвара Высмулэк і мгр Уладзіслаў Мука180ўскі, сакратаром — др інж. Чэслаў Аколаў, скарбнікам — Канстанцін Віснеўскі, членамі — Пётр Тарасевіч і Мар'я Шпаковіч.

Новае праўленне арганізуе цыкл лекцый „Свет вакол нас", дапаможа ў пабудове ў Белавежы новай пачатковай школы, спрабуе давесці да перадачы ў Белавежу помніка зубра, які цяпер знаходзіцца ў Спале, арганізаваць фестываль фільмаў, якія зніміліся ў Белавежскай пушчы, падрыхтаваць у 35-ую гадавіну смерці першага кіраўніка белавежскага запаведніка праф. др Язэпа Пачоскага вечарыны, на якіх прыпомніцца яго жыццёвы шлях і навуковыя дасягненні, давесці да аднаўлення II выдання манаграфіі „Нацыянальны парк у Белавежскай пушчы" пад рэд. Я. Б. Фалінскага, арганізаваць выстаўку паштовак і гравюр, прадстаўляючых Белавежу ў розных гадах.

Думаецца таксама аб запраектаванні значка ТПБ і знака, які будзе ўручаны людзям, заслужаным для Белавежы. Варта пры нагодзе на заканчэнне сказаць пра ўручэнне на сходзе члену праўлення таварыства Канстанціну Віснеўскаму сярэбранага знака „Заслужаны для Беласточчыны".

**П. Байко**



*Дарога ў Белавежскай пушчы.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## Ад родных ніў

### ПОЛЬКО

*Там дзе лозы воду хлепчуць,*
*радам з Нарваю ракой,*
*Дзе з сасной бярозы шэпчуць*
*пад Мацейкавай гарой,*
*Дзе на поўдзень лугоў многа,*
*ад паўночы лес сцяной,*
*Там пры лесе йдзе дарога,*
*стаіць вёсачка пры ёй.*
*Польк0 — вёсачку так звацi,*
*толькі пара хат стаіць,*
*Аб ёй цяжка расказаці,*
*а цяжэй было пражыць.*
*Жыў народ тут, весяліўся,*
*хоць і цяжка працаваў,*
*Ціхі сад да хат туліўся,*
*салавей у ім спяваў.*
*Ішлі жнеі жыта жаці,*
*касары у сенакос,*
*дзеці ягады збіраці,*
*а па лесе ляскаў воз.*
*Так праходзіў год за годам,*
*пралятаў дзянёк за днём,*
*усё зжывалася з народам,*
*кожны марыў аб сваём.*
*Надышоў год сорак першы,*
*з летам страшная вайна,*
*не раскажаш у гэтым вершы,*
*як свет нішчыла яна.*
*Партызаны тут дарожкі*
*праз лес сталі пракладаць,*
*адпачыць было дзе трошкі*
*і бялізну пасціраць.*
*Круглы лясок побач Полька,*
*хтось падсолтыса забіў*
*і спакойным людзям столькі*
*бяды велькай нарабіў.*
*Немцы вёску акружылі*
*і забралі з яе ўсіх,*
*жанчын з дзецьмі аддзялілі,*
*павязлі на Прусы іх.*
*А мужчынаў катавалі*
*і дапытвалі усіх.*
*— Расстраляць! — так загадалі*
*і прывезлі да сваіх.*
*Іх прыгналі да хваіны,*
*да глыбокай ямы той,*
*дзе карчы густой каліны*
*красаваліся вясной.*
*І пастроілі тут каты*
*пальчан у апошні строй.*
*Затрашчалі аўтаматы,*
*заліло зямлю крывёй.*
*Тады ў яму увалілі*
*і прысыпалі зямлёй,*
*родну вёсачку спалілі,*
*каб і след астыў па ёй.*
*Прайшло часу ужо многа,*
*ўсё той самы лес шуміць,*
*а у лесе пры дарозе*
*помнік пальчанам стаіць.*

**А. Леўшук,**
Ціванюкі

ЗАГАДКІ МІНУЛАГА




Каля 240 мільёнаў гадоў назад на нашай планеце жылі велізарныя яшчары. Гэтыя найвялікшыя жывёліны з тых, што жылі на Зямлі, „акупіравалі" сушу, паветра, а затым і марскія глыбіні. Гіганцкія паўзуны даўжынёй 25-30 метраў і вагой некалькі дзесяткаў тон дасягнулі ў некаторых выпадках сапраўды „карыкатурных форм". Маленькія галоўкі, пасаджаныя на шматметровай шыі, велізарныя целы з гіганцкімі хвастамі сталі аб'ектам увагі сучасных мастакоў-гумарыстаў.

Будучы доўгі час гаспадарамі сушы і мора, велізарныя паўзуны вымерлі ў пэўным гістарычным перыядзе хутка і беззваротна. Гэта акалічнасць ужо шмат гадоў у цэнтры ўвагі біёлагаў. Рэшткі жывёлін знаходзяць у вялікай колькасці амаль ва ўсіх кутках Зямлі. І таму ўдалося аднавіць з вялікай дакладнасцю іх формы, велічыню, спосаб жыцця. Аднак раптоўнае і нечаканае знікненне ўсіх гэтага роду жывёлін застаецца пакуль неразгаданай тайнай.

Адны з буйнейшых у свеце „могілак" велізарных паўзуноў знаходзяцца ў Афрыцы. Франка-італьянская геалагічная экспедыцыя, якая даследавала раёны Сахары, нечакана наткнулася некалькі гадоў назад на тэрыторыю, дзе залягаюць рэшткі тысяч дыназаўраў (гэта месца называецца **Гарой Каменных Змей**). Дыназаўры належалі да групы буйнейшых паўзуноў. Гэта была траваядная жывёла, якая хадзіла на дзвюх нагах, абапіраючыся пры гэтым на моцны доўгі хвост. Некаторыя жывёліны мелі на хрыбце і галаве касцяныя нарасці ў выглядзе рагоў, або грабянёў.

Могілкі на Гары Каменных Змей з'яўляюцца буйнейшымі, але не адзінымі ў Афрыцы. На гэтым кантыненце неаднаразова знаходзілі рэшткі такіх земнаводных паўзуноў, як брантазаўры, дыпладокі, а таксама драпежнікаў, падобных да дыназаўраў. Жылі тут таксама розныя віды малых паўзуноў, а таксама лятаючыя яшчары — птэрадактылі. На тэрыторыі цяперашняй Сахары працякалі калісьці рэкі, вакол — багатая раслліннасць, шмат забалочаных азёр. Гэта было падыходзячае месца для пражывання велізарных драпежнікаў, якія маглі тут знайсці сабе дастатковую колькасць ежы. І вось гэтыя гіганцкія жывёліны, якія панавалі ў той час на зямным шары, нечакана знікаюць 70 мільёнаў гадоў назад. Прычым выміраюць за кароткі для сусветнай гісторыі прамежак часу — без малога паўмільёна гадоў. Чаму гэта здарылася?

Прычыны гібелі дыназаўраў вучоныя шукаюць не толькі на Зямлі, але і ў космасе. Японскі фізік Мінору Такахасі мяркуе, напрыклад, што, акрамя вядомых у наш час дзевяці планет, у Сонечнай сістэме было яшчэ адно нябеснае цела, якое складалася з ільду і вады. Планета гэта на працягу мільёна гадоў існавання магла перыядычна набліжацца да Зямлі, што выклікала велізарныя катаклізмы — патопы і паводкі. Вынікам такіх катаклізмаў маглі быць сур'ёзныя біялагічныя змяненні на нашай планеце... А можа гіганцкія яшчары загінулі ў выніку раптоўнага павышэння касмічнага выпраменьвання, якое з'явілася вынікам выбуху недалёка размешчанай новай альбо звышновай зоркі?

Найбольш праўдападобнымі здаюцца тлумачэнні, якія звязваюць гібель дыназаўраў са змяненнямі ў асяроддзі і біялагічным развіццём планеты. У канцы эпохі дыназаўраў на Зямлі з'явіліся першыя млекакормячыя. Гэта былі невялікія грызуны, якія вызначаліся вялікай пражэрлівасцю. Яны, напрыклад, маглі харчавацца яйкамі дыназаўраў. Палеантолагі знайшлі мноства такіх яек, часткова з'едзеных невялікай жывёлай. Апошняя магла, такім чынам, затрымліваць працэс размнажэння яшчараў і садзейнічаць іх частковаму выміранню.

Некалькі гадоў назад амерыканскі вучоны Роберт Бекер выказаў меркаванне, што дыназаўры былі цеплакроўнай жывёлай, а не паўзунамі, як да гэтага часу лічылася. Галоўным аргументам пры гэтым ён лічыць хуткасць, з якой рухаліся гэтыя велізарныя жывёліны. Абмен рэчываў у халаднакроўных не даваў бы ім магчымасці дасягаць хуткасці большай, чым 30 кіламетраў у гадзіну. У той жа час даныя даследаванняў указваюць на тое, што некаторыя віды дыназаўраў рухаліся з хуткасцю да 80 кіламетраў у гадзіну. А гэта не пад сілу халоднакроўнай жывёле такіх велізарных размераў. Калі ўсё было так, то іх гібель можна растлумачыць вельмі проста. Яны не мелі ні поўсці, ні якіх бы там ні было органаў, якія б рэгулявалі абмен цяпла з навакольным асяроддзем. У той час на нашай планеце адбываліся вялікія кліматычныя змяненні, настала пахаладанне, змяняўся састаў атмасферы, высыхалі азёры, гінула расліннасць. Яшчары не здолелі прыстасавацца да гэтых раптоўных перамен, яны маглі жыць толькі ў пэўных умовах.

Апошнія даследаванні гавораць яшчэ і аб другой біялагічнай прычыне. Гібель дыназаўраў мела месца ў перыяд буйнага развіцця так званых пакрытанасенных раслін. Яны ўтрымліваюць цэлы шэраг атрутных злучэнняў, такіх, як стрыхнін, марфін і іншыя, якія шкодныя для большасці жывёл. Дыназаўры ж з'ядалі велізарную колькасць корму — напрыклад, пяцітоннаму яшчару штодзённа патрэбна было для харчавання прыкладна 200 кілаграмаў расліннай масы. Яд паступова збіраўся ў арганізме жывёлы, выклікаючы розныя фізіялагічныя і спадчынныя змяненні, настала, такім чынам, паступовая дэградацыя віду. Выкапнёвыя рэшткі паказваюць, што ў перыяд, які папярэднічаў поўнаму знікненню гэтай велізарнай жывёлы, у дыназаўраў была нейкая хвароба. Момант смерці напаткаў іх у позах, характэрных для жывёлы, што гіне ад моцнага атручвання.

На шкарлупіне знойдзеных яек дыназаўраў заўважаны змяненні, знаёмыя нам па яйках птушак, атручаных у нашы дні некаторымі хімічнымі рэчывамі. Аб рэальнасці гэтых меркаванняў сведчыць таксама той факт, што спа-

(Працяг на стар. 5)



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Так бывае...

# „Чужы" бацька

Дзяўчына была маладая і прыгожая і ад хлопцаў адбою не было. А ўсё ж на кожнага не ляцела. Хадзіла ўжо пару год з адным. Прывыкла да яго, быў вельмі чуллівы і добры. Збіраліся пажаніцца.

I тут, як гэта часта ў жыцці бывае, з'явіўся „ён", той трэці, з'явіўся нечакана, як бліскавіца, і поўнасцю запаланіў маладое дзявочае сэрца. А ў 20 год мала хто думае аб тым, што прынясе будучыня, і нават найлепшыя якасці чалавека ідуць на бок, калі сэрца дзяўчыны затрапечацца да іншага чалавека.

I выйшла яна замуж за гэтага новага хлопца. Кахаліся. Нарадзіўся сын, пасля — дзяўчынка, ізноў дзяўчынка. I не мінула пяці год, як засталася маладзіца ўдавою з траіма дзецьмі на руках. Муж яе любіў выпіць (працаваў шафёрам) і аднойчы, будучы моцна п'яным, заснуў у гаражы ў машыне з уключаным маторам. Так і атруціўся спаліновым газам.

Што было рабіць маладой удаве? Выхоўвала сваіх дзетак, як магла, хаця нялёгка было ёй, звычайнай медсястры, пракарміць і выхоўваць адной усю грамадку. Дзеткі хадзілі ў моцна пацыраваных панчошках, даношвалі адно па другім пальцінкі і світарочкі, але былі заўсёды чысценькія і прывыкалі да працы. Раніцай старэйшыя беглі ў магазін за пакупкамі, а пасля апекаваліся маленькай сястрычкай.

Старэйшыя пайшлі ўжо ў школу. I вось ізноў паяўляецца той „першы", той добры і чуллівы, пачуцці якога не пагаслі з бегам часу. Не ажаніўся ён. Мо чакаў (невядома, чаго), мо не знайшоў такой, якая магла б яму замяніць усмешку тае дзяўчыны. Не мог яе скрэсліць з памяці.

Прыйшоў, як толькі даведаўся, што патрабуе яго. Прыйшоў, нягледзячы на тое, што была цяпер маці траіх — не яго дзяцей. Стаў ім бацькам. Супольных дзяцей не маюць — навошта, калі ёсць ужо трое? А калі ехалі адпачываць удваіх у Балгарыю, дзяцей даглядалі яго бацькі. Кахаюць іх, як сваіх родных унукаў. Дзеткі, як і раней, чысценькія, толькі ўжо прыгожа і нятанна апранутыя і тоўсценькія, хаця па-ранейшаму (цяпер ужо ўсе па чарзе) бегаюць раніцаю па малако і прыбіраюць у хаце...

**А. Ц.**

# Актывізавалася

ЛОК у Крынкаўскай гміне праяўляла сваю дзейнасць пры гмінным праўленні, ГС-е, ПГР-ы, гарбарні, зборнай гміннай школе і ў вёсках Гураны і Крушыняны. У мінулым годзе ў гміне праводзіўся конкурс па стральбе, які карыстаўся вялікім зацікаўленнем, асабліва з боку малодшага пакалення.

Як сцвярджае прэзас гміннага праўлення ЛОК — Уладзіслаў Яновіч, сёлета запланавана арганізаваць працу ў клубах афіцэраў рэзерву, па стральбе, мадэлярству і інш. (мх)

## Ці ведаеце, што...

...у Беластоцкім ваяводстве існуе шэсць прадпрыемстваў ПГР, якія вядуць сельскагаспадарчую дзейнасць на 16,2 тыс. гектараў.

...у гадах 1976-1980 прадпрыемствы ПГР у Беластоцкім ваяводстве загаспадараць яшчэ 19,4 тыс. гектараў зямельных угоддзяў ПФЗ.

...у нашай краіне дзейнічае 357 малочных прадпрыемстваў, з якіх 22 выпускаюць вырабы з сусветным знакам якасці „Q".

...у Беластоцкім ваяводстве на 158 поштах працуе каля 1 300 чалавек. (ця)



(Працяг са стар. 3)

# Тайна дыназаўра

чатку вымерлі раслінныя яшчары, а затым толькі драпежныя. Такім чынам, можна меркаваць, што прычынай гібелі гіганцкіх паўзуноў маглі стаць змяненні ў хімічным саставе раслін. Дарэчы, такі выпадак можа быць сур'ёзнай перасцярогай для сучаснага чалавека. Бо неразумная гаспадарчая дзейнасць выклікае таксама вялікія хімічныя змяненні ў навакольным біялагічным асяроддзі. А ці не будуць яны таксама шкоднымі для жывёльнага свету і нават для чалавека...

На падставе вялікай колькасці рэштак старажытных жывёлін палеантолагі Польскай акадэміі навук, напрыклад, здолелі аднавіць знешняе аблічча розных відаў паўзуноў. Мадэлі іх у натуральную велічыню жадаючыя могуць агледзець у „Доміку дыназаўраў" Сілезскага заалагічнага саду. Гэта адзіная такая экспазіцыя ў Еўропе, якая цудоўна ілюструе магчымасці сучаснай навукі, што прыўзнімае для нас заслону даўно мінуўшых часоў.

**У. М.**

## Фальклор

*ВЯСЕЛЬНАЯ („КАРАВАЙНАЯ")*




*Ой, годзі, годзі тобе, пшэнічко,*
*сем лет у стогу стояці.*
*Трэбо з цебэ, моя пшэнічко,*
*на коровай зачаці.*
*Трэбо з цебэ, моя пшэнічко,*
*на коровай зачаці.*

Ад Анны Валадкевіч, год 70, вёска Буды ў Белавежскай пушчы, запісаў 12 кастрычніка 1976 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# І ягадка, і грыбок...



Калі мы гаворым аб карысці, якую людзям дае лес, то перш за ўсё маем на ўвазе драўніну — асноўны матэрыял для вырабу мноства рэчаў, неабходных у нашым штодзённым жыцці. На другі план адыходзіць усё іншае, што шчодрай рукой мы адвечна чэрпаем з зялёнага гушчару. А як вынікае з дзейнасці Прадпрыемства лясной вытворчасці „Лес" у Гайнаўцы, гэтыя іншыя прыбыткі з лесу складаюць вартасць добрых некалькіх дзесяткаў мільёнаў злотых у год.

— Пачнем ад самага звычайнага і нескладанага, — расказвае кіраўнік гайнаўскага „Лесу" **Мікалай Гаўрылюк.** — Пры працаробцы і ачыстцы маладога лесу атрымоўваецца не мала тонкага жэрдзя. З яго мы нарыхтоўваем штыкеты ды розныя засаўкі на экспарт у Федэратыўную Рэспубліку Германіі на якія мільён злотых у год. Гэтым матэрыялам нашыя нямецкія пакупнікі абгароджваюць свае аднасямейныя домікі. З рэшты робім каля мільёна штук калкоў і пяці тысяч пагонных метраў фашыны для нашай меліярацыі. Пры гэтым нельга абмінуць і мноства бярозавых венікаў, грабляў, касіскаў, калкоў да дрэўцаў у садах і іншага, што прыносіць нам таксама некалькі мільёнаў злотых у год. Важнае месца ў нашай вытворчасці займаюць розныя каробкі, кашы, кошыкі ды кошычкі — разам каля 30 відаў вырабаў з ракіты і саломы. Прадаем іх у асноўным у Федэратыўную Рэспубліку Германіі, Канаду, Францыю і іншыя заходнія краіны. Спачатку мы працавалі на прывазной ракіце з Сопату. Цяпер жа дзве нашы ўласныя плантацыі ў Даратынцы і Зубаве, а таксама сяляне, якія займаюцца вырошчваннем ракіты па контрактацыйных умовах з намі, а найбольш іх маем у ваколіцах Орлі, Бранска і Цеханоўца, дастаўляюць столькі матэрыялу, што гады праз тры мы будзем працаваць на ўласнай ракіце. Зрэшты, вырошчванне ракіты — гэта надта даходны занятак, асабліва ў тых гаспадарках, дзе не хапае рабочых рук. З аднаго гектара плантацыі можна атрымаць у год каля 50 тысяч злотых, пры гэтым такі прыбытак утрымліваецца на працяту амаль 20 год і то без асабліва цяжкай працы пры доглядзе. Нарыхтоўваем мы шмат, аж на звыш 15 мільёнаў злотых, розных футляраў для вырабаў такіх варшаўскіх прадпрыемстваў, як Фабрыка дакладных прыбораў, Прадпрыемства электранічнай вымяральнай апаратуры, Фабрыка прылад для абслугоўвання аўтамабіляў, Фабрыка легкавых машын і іншых. Робім таксама спецыяльныя сіты для Гаймаклесу, ліствы для снопавязалак, спецыяльнае абсталяванне для кабінетаў навучання іншаземных моваў Беластоцкай палітэхнікі. Неўзабаве наша прадпрыемства ў Белавежы пачне выпускаць будаўнічыя элементы для фермаў, у якіх будзе весціся гадоўля свіней, авечак, быдла. Ужо ёсць заказы на 30 такіх будынкаў.

Побач з такой вытворчасцю гайнаўскі „Лес" з размахам займаецца нарыхтоўкай спажывецкіх прадуктаў, што з'яўляюцца, калі не ласункамі, дык напэўна надта рэдкімі і вельмі пажаданымі на сучасным стале рэчамі. Перш за ўсё гэта будуць ягады: чарніцы, якіх скупілі 170 тон, плоцячы па 22 злотых за кілаграм; вішні — 120 тон (па 19 злотых за кілаграм), затым па некалькі дзесяткаў тон трускалак, чорнай і чырвонай парэчкі і г.д. У грыбныя гады скупоўваецца па 150 тон плісак (лісічак), але ў мінулым няўраджайным на грыбы годзе — усяго 50 тон, апенек 200-250 тон, у мінулым годзе — усяго 80 тон, зялёнак і маслюкоў — каля 50 тон, у мінулым годзе — толькі адну тону, зрэдку трапляюцца баравікі. Ад паляўнічых бяруць дзічыну (лосі, алені, дзікі, зайцы і інш.) звычайна на якія 6 мільёнаў злотых у год. Пераважаючая большасць гэтых прысмакаў у свежым выглядзе або пасля ўступнай перапрацоўкі адразу адсылаецца за мяжу, у заходнія краіны, а тое, што не паспеецца выслаць, ідзе на саленні ды пульпы, якія потым перапрацоўваюць іншыя прадпрыемствы на розныя марынады, саленні, кансервы і г.д. I тут не абыходзіцца без значных цяжкасцей: гайнаўскаму „Лесу" не хапае прадукцыйнай прамысловай базы для перапрацоўкі скупленай сыравіны на фінальны прадукт. Але і ў гэтай дзялянцы відаць прагрэс — коштам 72 мільёнаў злотых паўстае на ўскраіне Гайнаўкі (на Юдзянцы) вытворчае прадпрыемства „Лесу". Яно ўжо ў 1979 годзе павінна цалкам ліквідаваць цяперашнія вытворчыя цяжкасці і стварыць дасканалыя ўмовы для перапрацоўкі дараў лесу. Астаецца яшчэ даволі цяжкая справа з недахопам адпаведных сродкаў транспарту, а яна таксама мае рашаючае значэнне для вынікаў вытворчасці прадпрыемства. Тым больш, што з кожным годам павялічваюцца планавыя заданні гайнаўскага „Лесу": у 1973 г. яны складалі 32 мільёны злотых, а ў мінулым годзе ўзраслі да 80 мільёнаў злотых. I гэтае вялікае заданне прадпрыемства паспяхова выканала.

— Зразумела, што гэта заслуга ўсяго нашага працоўнага калектыву, г.зн. 250 сталых працаўнікоў і каля 200 саматужнікаў, што працуюць дома, — падкрэслівае **М. Гаўрылюк.** — А працуюць у нас людзі салідныя як, для прыкладу, лясныя рабочыя браты **Сцяпан і Ян Баены**, а таксама **Уладзімір Барысюк** з вёскі Машчона Панская, **Ян Герасімюк** з Залесся каля Нурца, а з Гайнаўкі **Ірына Юзікоўская** — брыгадзір спажывецкага аддзялення, **Яўген Качан** — кіраўнік драўніннага аддзялення, **Леакадзія Храбалоўская** — працаўнік скупкі і многа іншых.

А нам усім як жа прыемна ведаць, што дзякуючы іх працы разнастайныя багацці Белавежскай пушчы і навакольных лясоў не гінуць марна, а даюць прыбытак нашай краіне.

**І. Снарскі**

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*



*Хлопчык з Крывяціч.*
*Фота В. Рудчыка.*

(Працяг са стар. 2)

# У сучаснай Лідзе

дзяцца новыя аб'екты, пад фундаменты якіх ужо рыхтуюцца глыбокія катлаваны.

А ці засталося нешта з колішняй павятова-раённай Ліды, якую захаваў яшчэ ў памяці хто-небудзь з нашых чытачоў старэйшага ўзросту? Так, а як жа ж! Але ўсяго некалькі вулачак і то не на ўскраіне горада, а якраз у яго цэнтры. Бясформенныя даваенныя мяшчанскія „камяніцы" і драўляныя з ганачкамі ды філанговымі аканіцамі домікі яшчэ дрэмлюць у рэдкіх яблыневых ці вішнёвых садзіках. Ды сон іх ужо нядоўгі, бо з усіх бакоў наступаюць на іх высачэзныя і даўжэзныя жылыя карпусы-веліканы. Падобна як і над старымі сценамі лідскага замка, якія ўзводзіў у 1323 — 1325 гадах сам вялікі князь літоўскі Гедымін, узвышаецца стройная гасцініца і ветліва запрашае ў свае выкладзеныя мармурам сцены гасцей, што адкрываюць прыгажосць сучаснай Ліды.

**Мікалай Гайдук**

## Ewa Demarczyk



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвалі:**
Ніна Кананюк і Яўгенія Кудэрская з Галадоў.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У маці ёсць трое дзяцей: дачка і два сыны. Дачка няздольная да працы, адзін з сыноў жыве з жонкай на гаспадарцы жонкі, а другі, хоць жыве разам з маці, працуе на прадпрыемстве ў горадзе. Ці маці можа распісаць гаспадарку завяшчаннем або натарыяльнай умовай усім сваім дзецям? Калі гэткі падзел гаспадаркі немагчымы, ці можа ўсю гаспадарку запісаць на дачку-інваліда I групы? Ці калі б маці перадала гаспадарку дзяржаве за пенсію, дачка атрымала б пенсію пасля смерці маці?

АДКАЗ: Маці не можа распісаць зямлю на ўсіх сваіх дзяцей, бо гэта азначала б падзел гаспадаркі, які законам забаронены. Маці можа запісаць гаспадарку на аднаго, на таго, хто мае кваліфікацыі да кіравання сельскай гаспадаркай, г.зн. у нашым прыкладзе на сына, які жыве на гаспадарцы жонкі, ды і то, калі ён закончыў прынамсі курс сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Гэткія правілы прымяніў бы суд, сцвярджаючы правы на спадчыну на аснове завяшчання, калі б маці завяшчанне пакінула. Калі б маці ўстанавіла наследніцай толькі дачку, якая з'яўляецца інвалідам I групы, гаспадарка перайшла б ва ўласнасць дзяржавы, якая была б абавязана сплаціць вартасць гаспадаркі дачцы. Калі б маці аддала гаспадарку дзяржаве за пенсію, то пасля яе смерці дачка атрымоўвала б пенсію велічынёю 45% той пенсіі, якую атрымоўвала маці, апрача таго ёй праслугоўваў бы як інваліду I групы дадатак 500 зл. у месяц.



## Сардэчныя тайны

Пішу я да цябе, Сэрцайка, першае пісьмо і думаю, што параіш мне, так як і іншым раіш, як паступіць. Жыву я ў вёсцы непадалёк ад Беластока. Ёсць у нас файныя хлопцы. Я і пачала з адным з іх хадзіць. Яму — 19 год, на два гады за мяне старэйшы. Завецца Вася. Усё было добра, пакуль Вася быў на месцы. Але восенню ён пайшоў у армію. Мне было вельмі сумна, толькі адзінай пацехай былі для мяне яго пісьмы, якія атрымоўвала я даволі часта. Ішлі дні, тыдні, і цяжка мне было ўседзець у хаце адной. Я і пачала хадзіць у кампанію, на забавы. Ну і вядома ж, на забаве ў кутку не стаяла, гуляла з рознымі хлопцамі, але ў маім сэрцы быў толькі Вася. І нехта ж напісаў Васі, што я тут разгульваю і ўвогуле розныя недарэчнасці. Даведалася я аб гэтым з пісьма, якое прыслаў мне Вася. Ён загневаўся на мяне, больш пісьма не прыслаў. Мне ўжо ўсё нямілае, пераважна сяджу ў хаце. Але вось надышоў карнавал, забавы, хочацца і мне патанцаваць, але людскіх языкоў баюся. І яшчэ адно. Я даведалася ад сябры Васі, што Вася мае прыехаць у водпуск. Што зрабіць, каб усё наладзіць?

Лена з Беласточчыны

Лена, абое вы не вінаваты, дык думаю, лёгка зможаце пагадзіцца. Усяго амбарасу нарабілі пляткары. Яны нават, трапіўшы на падатны грунт, многаму могуць зашкодзіць, напсаваць. Але, думаю, вы іх адолееце. Вася напэўна будзе шукаць спосабу спаткацца з табой, тады спакойна і пагаворыце, высніце сабе ўсё. Ён жа павінен зразумець, што немагчыма 17-гадовай дзяўчыне ўседзець два гады без кантакту з моладдзю. Пагуляць, патанцаваць, ці ж гэта ўжо здрада?

**Сэрцайка**



## Вер-не-вер

Астроне, снілася мне, што сяджу я сярод сваіх супрацоўнікаў у вялікай зале. Усе глядзяць на мяне. Здымаю я з галавы шапачку, а тут, божа ты мой, зусім лысая галава, як у старычка. Стала мне сорамна, здаецца, чырванею, хуценька насоўваю шапачку і далей сяджу. Але не сядзіцца мне, штосьці карціць ізноў, каб усунуць руку пад шапку. Памаленьку, каб ніхто не заўважыў, пачынаю ізноў знімаць шапку, а тут... людцы добрыя, валасы, як шчаціна! І што гэта значыць, скажыце?

Другі сон. Сон, як ява. Здаецца, бягуць людзі кудысьці грамадой. Вядома, бягу і я. Усё ў самым цэнтры горада. Напаўдарогі гляджу сабе пад ногі, а я — людзенькі, боса, босенька. І стала зноў мне сорамна, бо і ногі не найпрыгажэйшыя, не наймалодшыя. Ды я тады паварочваю дадому, каб адшукаць свае туфелькі, абуцца. Але ж толькі павярнула, а тут мяне хапае за руку пажылы чалавек, значыць, знаёмы, у якога я (не ўва сне, а ў сапраўднасці) тыдзень таму назад хадзіла справу афармляць. Пасадзіў ён мяне ля сябе і тлумачыцца, чаму ён мне не залатвіў справы (бо так было, што ў сапраўднасці, не ўва сне, ён мне справы не залатвіў). Сяджу я пры ім, мне здаецца, што ён усё на мае босыя ногі глядзіць.

Я вырываюся і бягом дахаты. Убягаю, гляджу — а тут стаяць мае беленькія, як снег, туфелькі. Ад радасці я прабуджаюся.

Ніна

Ніна, з першага сну відаць, што маеце нейкія клопаты, звязаныя з утратай незалежнасці на рабоце (бачылі многа супрацоўнікаў у вялікай зале) і нейкім падарожжам у невядомае (шапачка). Калі вы знялі шапачку, высветлілася, што галава ваша была лысая, без валасоў, дык будуць, значыцца, нейкія затрудненні ў вашых справах. Але пасля вашы валасы адраслі, дык і справы павінны наладзіцца.

Другі сон па сутнасці вельмі падобны да першага. Ізноў шмат людзей, цяпер ужо не лысая галава, а босыя ногі, але пасля ўсё ж вы знайшлі свае белыя туфелькі. Думаю, што справы вашы набяруць добрага ходу, чаго вам і жадае

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Зубры.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




## Дом вясці — не задам трасці!

### З ЦЫКЛУ: ШТО ТРЭБА МЕЦЬ НА КУХНІ



Апрача падставовага посуду, як, напрыклад, каструляў ці патэльняў, талерак ці кубкаў, вельмі істотную ролю для гаспадыні адыгрывае дапаможны посуд. І справа тут не ў тым, каб мець у хаце поўны асартымент магазіна „1000 дробязей", а проста кожная гаспадыня павінна ведаць, што ёй найбольш патрэбна, і ўмець падабраць для кухні тое, што аблягчае яе працу і эканоміць час.



Што датычыцца нажоў, то варта было б мець у хаце такія нажы: нож для абірання гародніны, нож са шчылінай для абірання бульбы, нож для хлеба з асобным вастрыём, так званы буфетавы нож для нарэзвання каўбас і іншых вяндлін, ды нож для сячэння і дзялення прадуктаў. Дадаткам да гэтага саставу нажоў была б сякерка, малаток для мяса, ножніцы для птушак, нож для адкрывання кансерваў і штопар для выцягвання коркаў з бутэлек.

Абавязкова трэба мець таксама тарку. Можна мець некалькі розных тарак, але найбольш практычнай з'яўляецца спецыяльная чатырохбаковая тарка для гародніны. Неабходна мець у хаце таксама мясарубку.

На кухні цяжка абыйсціся таксама без перлонавых сітцаў — малых і вялікіх, алюміневага цэдзака, драўлянай лыжкі, чарпака, цэдзаковай лыжкі, без дэнкі (стальніцы) і дошачак для нарэзвання страў. Іх якраз можа быць больш. Добра было б мець таксама шкляную дошачку з фаянсу для нарэзвання селядцоў, памідораў, лімонаў.

Вельмі прыгадзіцца таксама відэлец для пераварочвання смажанага мяса і спецыяльная лапатка для пераварочвання катлетаў ці бліноў.

**Гаспадыня**




Мірзаян сяк-так растлумачыў хлопчыку, што ісці той павінен наперадзе, быццам немец канваіруе яго. Так яны пайшлі да касцёла. Янак наперадзе, Арам крыху ззаду. „Шнэль, шнэль!" — прытаварваў Арам, калі па дарозе сустракаліся гітлераўцы. Некаторыя з іх глядзелі на гэтую сцэну з абыякавасцю, некаторыя кідалі на Арама адкрыта пагардлівыя позіркі. Але да самай плошчы ніхто не спыніў іх.

Падыходзячы ўжо да плошчы, Арам наблізіўся да Янака ўшчыльную і шапнуў яму:

— Бяжы, хавайся, уцякай! Ты перашкаджаеш цяпер. Зразумеў?

Янак зразумеў. Дайшоўшы да пад'езда нейкага двухпавярховага дома, ён адчыніў дзверы і пачаў падымацца па лесвіцы. Арам прайшоў міма, у думках пахваліўшы хлопчыка за знаходлівасць.

Немцы на плошчы, якія бачылі, як патрульны афіцэр пайшоў адсюль з двума эсэсаўцамі, не звярнулі ўвагі на тое, што ўбачылі аднаго з гэтых эсэсаўцаў зноў. Відаць, ужо адно гэта здымала з яго ўсялякія падазрэнні. Быў у камендатуры, адрэкамендаваўся і прыйшоў назад.

На гэта і разлічваў Мірзаян.

Уважліва агледзеўшы плошчу, ён падышоў да двух салдат, якія ўмацоўвалі цяжкі кулямёт насупраць дзвярэй касцёла.

— Далей, далей! Вунь у той дом стаўце, — па-нямецку сказаў ён.

— У нас загад быў тут, пан...

— Маўчаць! Хутка ў той дом, — Арам паказаў рукой на нізкі каменны дом, які выходзіў адным акном на плошчу. — Біць будзеце з дома, з акна! Хутка!

Салдаты пацягнулі кулямёт праз плошчу, а да Мірзаяна ўжо бег унтэр-афіцэр.

— Хайль! — адказаў Мірзаян на прывітанне і закрычаў, не даўшы унтэру сказаць ні слова: — Вы што, уявілі сябе ў глыбокім тыле?! Вам вядома, што рускія наступаюць на горад?! Ці сабраліся драпаць, пакончыўшы з гэтым збродам у касцёле? Вас не цікавіць абарона горада? У вас кулямёт на адкрытым месцы спецыяльна ставіцца?

Унтэр разгублена вылупіў вочы на эсэсаўскае начальства.

— Добра, — злітаваўся, нарэшце, эсэсавец, — паклапаціцеся аб тым, каб вашы салдаты не адчувалі сябе, як на курорце. Я асабіста праверу баяздольнасць вашага аддзялення. — І ён, павярнуўшыся, накіраваўся да дома, дзе з акна ўжо тырчаў тупы ствол цяжкага кулямёта.

Унтэр яшчэ хвіліну глядзеў услед эсэсаўцу, а потым з лаянкай накінуўся на салдат, якія прыселі на прыступках касцёла.

Увайшоўшы ў дом, Арам замкнуў дзверы. Цёмны вузкі калідор нагадваў калодзеж. У сярэдзіне сцены выглядалі гэткімі ж голымі, як і знадворку. У калідор выходзіла двое дзвярэй. Арам адчыніў адны. Кухня. Маленькая жалезная ракавіна, печ-„буржуйка", лаўка і стол. У вузкае акно пад столлю паўзла ад печы труба. Арам выцягнуў з кішэні „лімонку", зачапіў кальцо засцерагальніка за ручку дзвярэй і мяцёлкай прыціснуў да іх гранату. Другі канец мяцёлкі ўпёрся ў процілеглую сцяну калідора. Цяпер, калі адчыніць дзверы з боку кухні або збіць мяцёлку, граната ўзарвецца.

Расшпіліўшы кабуру, Мірзаян адчыніў другія дзверы. Тут паўляжалі на драўляным двухспальным ложку абодва салдаты. Ложак яны падсунулі да акна. А на падаконніку стаяў кулямёт.

Арам ледзь не рассмяяўся. Вельмі ўжо па-гаспадарску ўладкаваліся гітлераўцы. Абодва яны ўскочылі і выцягнуліся.

— Адпачывайце, сябры, — адказаў эсэсавец. — Я буду тут з вамі. Паглядзім, ці не развучыліся салдаты фюрэра страляць па бальшавіках.

**(Працяг будзе)**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Камінар

У нас у Кнаразах кожны месяц ходзіць камінар. А ходзіць ён не дзеля таго, каб чысціць коміны, а каб грошы браць. Дам вось прыклад: хадзіў камінар у нас 17 снежня. Калі зайшоў да мяне, пытаўся, ці ў нас усе чысцяць коміны. Бо дзе не хадзіў ён, так гаварыў, нідзе комінаў не чысцяць, а ў вас дык хочуць чысціць. — Як прыду я другі раз, — пагражаў, — дык так такому пачышчу, што ён больш не захоча чысціць.

Няхай бельская камінарская ўстанова такіх камінароў больш да нас не прысылае.

**Міхал Кірылюк**

## Здарэнне ў Бельску

Часта можна яшчэ сустрэць шафёра, які зусім не лічыцца з людзьмі. 21 снежня мінулага года, Бельск. Аўтобус, які выязджае з Бельска а гадзіне 7.40 у напрамку Орля — Мора — Дубічы Царкоўныя, выехаў на 10 мінут пазней, але не ў гэтым найбольшая бяда. Шафёр аўтобуса нумар „AG — 6181" вёў сябе вельмі брыдка і дрэнна. Крычаў на людзей колькі сіл у горле. На дадатак не ўзяў адной асобы — дзядзьку, які дабег да аўтобуса ў час. Шафёр адапхнуў чалавека з усёй сілы і замкнуў дзверы. А аўтобус не быў так страшна перапоўнены. Адну асобу можна было смела ўзяць. Дзядзька не быў тоўсты і многа месца не заняў бы.

Проста цяжка растлумачыць такія паводзіны шафёраў. А можа лепш такому не вазіць людзей, а пашукаць працы, каб з людзьмі не сутыкацца.

(вл)




### МАРЫ АБ ДЗЯЎЧЫНЕ

Дзе жывеш, дарагая дзяўчына,
Колькі вёрст ты цяпер ад мяне?
Доўга думаў аб гэтым хлапчына
І хацеў бы адведаць цябе.

Без цябе ён не можа ўжо болей.
Без дзяўчат не жыццё на зямлі.
А жыве ён над рэчкай Сваволяй,
А далёка жывеш ты — скажы?

Што ж ты робіш цяперка, дзяўчына,
І штодзённа ты марыш аб чым?
Ці упаў табе ў вока хлапчына
І ці ты ўжо звязалася з ім?

Будзе добра вам жыць, дарагая,
І бяду будзе шчасце ганіць.
Ваша доля ўжо будзе такая —
Толькі жыць вам на свеце і жыць.

**Васіль Асеннік**

### КАБ НА ВЁСЦЫ ДОБРА ЖЫЦЬ...

*Я на вёсцы нарадзіўся*
*І на вёсцы я жыву,*
*Вёску моцна палюбіў я —*
*Нікуды я не пайду.*

*Каб на вёсцы добра жыць,*
*Трэба трохі знацца,*
*Землю моцна палюбіць*
*І за работу ўзяцца.*

*Не хадзіці да спулдзельні,*
*Кожды дзень стаяці —*
*Колькі грошай ў кішане,*
*Усе іх прапіваці.*

*Можна трохі пастаяць*
*І піва папіці,*
*Но не так ужо саўсім*
*Пра хату забыці.*

*Трэба жонцы памагчы —*
*Есці навaрыці*
*І вядро ёй паднясці,*
*Як свіней карміці.*

*Тады будзе нам лягчэй*
*І на вёсцы жыці,*
*Як мы будзем спольна*
*Работу рабіці.*

**Н. В.,**
Ціванюкі

## Па родных мясцінах

На паўднёвы ўсход ад Кнаразоў ёсць вялікі ўзгорак. Яго ў ваколіцы завуць Князева Гара. Калісь нашы бацькі гаварылі, што многа год назад на гэтай гары стаяла вышка для нагляду, што было калісь нейкае паўстанне ці вайна і з гэтай вышкі нейкі князь наглядаў за ваколіцай, а яго працўнік дагледзеў з гары ад вёскі Гацькі і застрэліў чалавека, ды так і засталася назва Князева Гара. Варта яшчэ дадаць, што з Князевай Гары пры сонечнай пагодзе відаць далёка, далёка...

**Міхал Кірылюк,**
Кнаразы

**Карэспандэнты пра сябе**

## Як я стаў карэспандэнтам

Было гэта ў пачатку 1975 года. Працаваў я ўжо шэсць год настаўнікам у сельскагаспадарчых школах у Бельску. Усе гэтыя гады быў адначасова апекуном вучнёўскага кааператыва „Дружба". Дзейнасць яго з кожным годам расла. І таму я вырашыў напісаць пра яе ў „Ніву". Як вырашыў, так і зрабіў. Аднак, мая заметка ў „Ніве" не паяўлялася, і я вырашыў наведаць рэдакцыю. Хаця крыху і пабойваўся, пачаў шукаць адказнага рэдактара, каб пагаварыць на цікавячую мяне тэму.

Першы раз у жыцці пабываў я ў рэдакцыйных пакоях. Усе сустракаемыя працаўнікі рэдакцыі былі тады незнаёмыя. У канцы папаў да журналіста, які вёў супрацоўніцтва з чытачамі. Ім была Вера Валкавыцкая. Доўга я гутарыў на розныя тэмы, асабліва аб супрацоўніцтве з рэдакцыяй, якое прадстаўлялася вельмі цікава.

Першыя мае артыкулы пачалі друкавацца ад мая 1975 года. Пісаць мне іх не было цяжка. Я вывучаў беларускую мову ў 1939-41 гадах і пасля другой сусветнай вайны — ад 1944 да 1946 года. „Ніву" чытаю ад пачатку. Яна заўсёды была для мяне цікавай.

За гады майго супрацоўніцтва я пабываў на розных з'ездах карэспандэнтаў. Пазнаёміўся з многімі цікавымі людзьмі, якія таксама пішуць у рэдакцыю. Некаторыя з іх пішуць вельмі многа. Пазнаёміўся таксама з людзьмі, якія працуюць у рэдакцыі. Усе яны вельмі прыемныя, заўсёды выслухаюць пра клопаты, падкажуць, як іх вырашыць, дапамогуць, павучаць, заўсёды знойдуць час, каб пагаварыць не толькі аб прысланых матэрыялах, але і на розныя іншыя тэмы, якія трывожаць чалавека.

Цяжка мне сказаць, ці доўга буду супрацоўнічаць з рэдакцыяй „Нівы". Абавязкаў прыбывае. Аднак, супрацоўніцтва з „Нівай" мне выдаецца цікавым, патрэбным і добрым.

**Мікалай Няплоха**

**Ад рэдакцыі:** напамінаем, што Мікалай Няплоха з'яўляецца першым карэспандэнтам за 1976 год.




**Я. Міхалюк, Чыжы.** З вашай справай мы звярнуліся да прэзаса ГС у Гайнаўцы і ад яго чакаем адказу.

**В. Сарачынскі, Дзернякова.** У апісанай вамі справе (пісьмо мы атрымалі ў апошні дзень мінулага года) будзем інтэрвеніраваць у надлясніцтве ў Жэдні і ад іх патрабаваць адказу.

**Малады беларус з Савецкага Саюза** цікавіцца жыццём беларусаў у Польшчы. Хоча перапісвацца з беларусамі ў Польшчы. Перапіску можа весці на рускай, беларускай ці польскай (хоць слабей) мовах. Адрас: СССР 734037 г. Душанбе - 37, ул. Чернышевского дом 12 кв. 9.

**Васіль Асеннік.** Верш „Вось дык гаспадыня" надрукуем, скараціўшы.

**Мікалай Усцілка с. Барыса.** Як мы даведаліся, ваша справа ўжо ўладжана. Атрымалі вы будаўнічы матэрыял 5 лістапада 1976 года. Добра пішаце, і мы лічым, што павінны вы часцей і не толькі аб сваіх справах пісаць нам, але і пра ўсе іншыя — добрыя і дрэнныя справы вёскі. Чакаем.

## Марнатраўства ў пухлоўскім лесе

Быў я аднойчы ў сваёй мясцовасці і выбраўся ў лес. Зайшоў аж пад вёску Пухлы. І ад таго, што там убачыў, мне аж нядобра стала. Бачу я, ляжыць некалькі паваленых дрэў, падышоў далей — а там яшчэ больш — адно дрэва каля другога. У адной кучы налічыў я больш трыццаці штук, а ўсіх паваленых было 150, а мо і больш. Ужо пачарнелі. Адны дрэвы ляжалі з карэннем і галлём, у іншых карэнні былі адрэзаны. На маю думку, гэтыя дрэвы ляжалі ўжо доўгі час. А былі гэта сосны, елкі, асіна і бярэзіна.

Калі я так прыглядаўся да гэтага марнатраўства, падышоў да мяне незнаёмы чалавек, і я спытаў яго, ці гэта нацыянальны парк, ці можа безгаспадарскі лес, што няма каму прыбраць дрэва, якое тут марнуецца. Той чалавек сказаў мне, што ён з Пухлоў і што гэты лес належыць да надлясніцтва ў Бельску і што дрэвы паваліла навальніца ў чэрвені 1975 года. Значыць, ляжаць яны ўжо другі год, і ніхто нават не падумаў забраць дрэвы.

Дарагая „Ніва", часта чытаю і чую па радыё і па тэлевізару, што дрэва — каштоўны і дарагі матэрыял. А ў пухлоўскім лесе так многа яго марнуецца. Як гэта можа быць?

**Ясь**

## Дзе купіць?

„Ніва" пісала ўжо, што вялікія ў нас цяжкасці з рознымі часцямі да матароляраў. Каб іх купіць, трэба ўсе магазіны абхадзіць, і таксама не заўсёды дастанеш. І не толькі з часцямі. Тое ж самае і з пакрышкамі — нідзе іх няма. А голымі калёсамі ж не паедзеш...

**М. Панфілюк**

## Тратуары ў снезе

Лянуюцца ў Белавежы скінуць снег з тратуараў, ой лянуюцца! Няхай уначы трохі пацярушыць, а ранкам цяжка дабрацца ў школу ці на працу, пакуль не пратопчацца сякая-такая сцежка.

Вядома, чалавек, устаўшы ранкам, хапаецца спярша за снеданне, кармленне жывёлы. Але трэба знайсці і хвіліну часу, каб ачысціць тратуар перад уласным домам. Некаторым не хапае на гэта часу нават пад вечар. А гэта ўжо дрэнна сведчыць аб такіх гаспадарах. Няўжо яны цэлы дзень круцяцца ў межах свайго двара і не бачаць, што за ім дзеецца?...

На жаль, белавежцы таксама не спяшаюцца з пасыпаннем слізкіх тратуараў. З гэтым справа выглядае яшчэ горш, чым з ачышчэннем тратуараў ад снегу.

**П. Байко**

## Збірайма злом на новы дом!

Злом — вельмі каштоўная сыравіна для нашай прамысловасці. Без дадатку злому да руды нашы гуты не могуць выплаўляць сталі. А часта бачыш, як злом у гаспадароў валяецца ўсюды — пад платамі, за хлявамі, і няма каму яго пазбіраць. Прайдзіце вуліцай вёскі, колькі ўбачыце старых місак, вёдраў, гаршкоў і розных кавалкаў жалеза...

Калісьці ГС у Шудзялаве наймаў фурманку, фурмана, і той ездзіў па вёсках і скупляў усялякі злом. Ці цяпер нельга было б зрабіць гэтак? Узяць трактар з сельскагаспадарчага гуртка, бо трактары ж зімою не маюць замнога работы, і паехаць па вёсках. Трэба, каб ГС-ы аб гэтым падумалі.

**Віт**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ВОСЬ ДЫК ЗАГАДЫ", „Ніва" № 44(1079) ад 31.X.1976 г.**

**CENTRALNA DYREKCJA OKRĘGOWA KOLEI PAŃSTWOWYCH ZARZĄD WAGONÓW W WARSZAWIE** powiadamia:

Okres ogrzewania wagonów na sieci PKP zaczyna się 1-go października i kończy się 1-go maja roku następnego. Dyrekcje Okręgowe Kolei Państwowych mogą zarządzić w swoich okręgach zmianę terminu rozpoczęcia lub zakończenia okresu ogrzewania pociągów.

**Polecenie włączenia wagonów ogrzewczych do pociągów wydane zostało dopiero przez CDOKP w dniu 12 X 1976 r.** z uwagi na niewystarczającą ilość wagonów ogrzewczych, które zalegały w Zakładach Naprawczych.

**Za zaistniały fakt i doznane przykrości w czasie podróży uprzejmie przepraszamy.**

**Naczelnik**
**wz. inż. Władysław Narkiewicz**
**Zastępca**

**Да публікацыі „ДЗЕ ПРАДАЦЬ БУТЭЛЬКІ?", Ніва" № 46 (1081) ад 14.XI. 1976 г.**

**Адказвае:**

**WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK GMINNYCH SPÓŁDZIELNI „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" ZAKŁAD OBROTU ARTYKUŁAMI PRZEMYSŁOWYMI I SPOŻYWCZYMI W BIAŁYMSTOKU.**

Sklep w Kuzawie przyjmował do zamiany puste butelki w przypadku sprzedaży octu, oleju i wina, lecz nie prowadził ich skupu. Czynności te spełniał wydzielony punkt skupu opakowań w odległej o 2 km Czeremsze. **Od dnia 17 XII 1976 r. uruchomiono w Kuzawie skup wszystkich butelek kaucjowanych podległych skupowi.**

Ponadto nadmieniamy, że na terenie działalności Gminnej Spółdzielni w Kleszczelach skup butelek prowadzony jest w 22 punktach sprzedaży detalicznej (sklepy i PSP) oraz w 9 wydzielonych punktach skupu. Powyższa ilość 31 punktów jest w pełni wystarczająca do przyjęcia każdej ilości zaoferowanych butelek.

**Dyrektor**
**inż. G. Prokopczyk**

**Да публікацыі „З ПІСЬМОМ НА ЧАЦВЕРТЫ ПАВЕРХ", „Ніва" № 84 (1083) ад 23.XI.1976 г.**

Wojewódzki Urząd Poczty w Białymstoku zawiadamia:

Zarzuty podane w notatce prasowej pt. „Z listem na czwarte piętro" podpisanej przez Wirskiego i dotyczącej kłopotów doręczycieli przy doręczaniu korespondencji w blokach czteropiętrowych na terenie Hajnówki — zostały zbadane.

W wyniku przeprowadzonego postępowania wyjaśniającego w Urzędzie Pocztowo-Telekomunikacyjnym w Hajnówce, jak i rozdzielnika przydzielonych skrzynek „Hermes" dla Wojewódzkiego Urzędu Poczty w Białymstoku w oparciu o dokumenty przychodu i rozchodu skrzynek „Hermes" ustalono, że **potrzeby w tym zakresie nie są przez dostawcę i producenta tych skrzynek zaspokajane.**

W roku 1976 otrzymano 290 skrzynek „Hermes": 35 sztuk 9-przegródkowych, 205 szt. 12-przegródkowych i 50 szt. 18--przegródkowych na planowanych 960 skrzynek.

Zgodnie z najpilniejszymi potrzebami w rozbudowujących się miastach województwa białostockiego, otrzymane skrzynki „Hermes" zostały przydzielone dla wszystkich miast z siedzibą byłych powiatów po 20 skrzynek. Natomiast dla pozostałych miast, jak np. Czarna Białostocka, Wasilków itp. przydzielono tylko po 10 skrzynek. Reszta przydzielonych skrzynek typu „Hermes" została zainstalowana w blokach wysokościowych 10-piętrowych na terenie Białegostoku, gdzie również nie zostały zaspokojone potrzeby w tym zakresie, bo jeszcze dużo bloków czteropiętrowych na terenie miasta Białegostoku z uwagi na brak skrzynek „Hermes" nie zostało w te skrzynki zaopatrzonych i doręczyciele poczty, podobnie jak na terenie m. Hajnówki, muszą pokonywać te piętra.

Mając powyższe na uwadze, **jak również słuszność tej notatki prasowej** należy uznać, że usunięcie tych niedomagań na odcinku zaopatrzenia w skrzynki typu „Hermes" uzależnione jest od zwiększenia ich produkcji przez dostawcę i producenta, a nie od DOPiT w Olsztynie, bądź też tut. Wojewódzkiego Urzędu Poczty.

**Z-ca Dyrektora WUP**
**Leon Prokopowicz**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149, 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Януш Асэнка

# ВІЗІТ

У дзвярах стаяў, усміхаючыся, сімпатычны малады чалавек. Зняў капялюш, пакланіўся і сказаў:

— Цёплая вада будзе паступаць бесперабойна. Ніякай змены труб не прадбачыцца.

— Пан з упраўлення? — спытаў я. — Чаму паведамляеце, што не будзе перабояў у забеспячэнні гарачай вадой? Да гэтага ж часу аб'явы рабілі толькі ў газетах або на лесвічных пляцоўках, ды і тое з выпадку спынення падачы вады.

— Так, — адказаў, — але цяпер мы пастанавілі прыемныя навіны паведамляць кватэранаймальнікам асабіста. Каб мець магчымасць парадавацца разам з жыхарамі.

Усё гэта паведаміў з усмешкай яшчэ больш далікатнай.

— Нешта за гэтым хаваецца, — прамовіў я з недаверам. — Відаць, пан паведамляе мне аб адсутнасці перабояў у падачы вады гарачай, каб суцешыць з прычыны адсутнасці халоднай?

— Можаце быць спакойным, — запэўніў прышэлец. — Халодная таксама будзе.

— Але ўсё роўна тут нешта не так, — разважаў я голасна. — Можа, ліфт сапсаваўся? Паўгода рамантаваць будзеце?

— Ды не! — мае сумненні дужа забаўлялі госця.

— Ведаю! — усклікнуў я. — Штосьнебудзь з газам? Рамонт гарэлак? На які час выключаць?

— Не выключым, — супакоіў.

— Электрычнасці не будзе? — спрабаваў здагадацца. — Замена кабелю?

— Будзе электрычнасць. Бесперабойна.

— Скрынкі для адкідаў замкнеце?

— Не.

— Тэлефон мой адключыце?

— Не.

— Што ж мне пагражае? — намагаўся зразумець. — Замена столі? Калі павінен выехаць з кватэры?

— Нічога падобнага, — запэўніў ён. — Замены столі не будзе.

— А перагародак?

— Таксама не.

— Мажліва, малако перастануць дастаўляць?

— Аб дастаўцы малака можаце не турбавацца.

— Пане! — пачаў нервавацца. — Скажы, пан, хутчэй: што здарыцца?

— Нічога не здарыцца. Спадзяюся...

— І нічога не буду пазбаўлены?

— Нічога.

— Дык чаго ж тады пан прыйшоў? — ламаў я галаву. — Ці ж гэта магчыма, што нічагусенькі мне не пагражае? Усё будзе працаваць?

— Як гадзіннік, — заявіў.

— Не, не магу гэтаму паверыць, — усклікнуў я. — Хіба я толькі сню!

— Нарэшце пан здагадаўся, — сказаў прышэлец і асуджальна паківаў галавой. — Доўга пан спіць, а час ужо на працу. Калі ласка, прачніцеся! На працу!

На мяккіх ад сну нагах я давалокся да ваннай.

Зубы яшчэ паспеў прапаласкаць рэштай халоднай вады. Потым пырснула з крана чырвоная муць і доўга шыпела сціснутае паветра.

Пераклаў **Яўген Каршукоў**



*Без слоў.*

# НІЎКА



*Усё як у звычайным жыцці.*

### КЛОПАТ БРАТА

У Кандрата сёння свята,
Вельмі радасна Кандрату:
Выдае дачку Мальвіну
За прыгожага хлапчыну.

Урачыста надта ў хаце,
Усе вітаюць бацьку, маці.

Нічасця зычаць маладым
Аж на доўгія гады.

А нявесцін родны брат
Заклапочаны, бач, нечым...
Дзе б знайсці той апарат,
Каб, пакуль усе таўкуцца,
Шлюб сястрыцы ўвекавечыць!
Раптам... заўтра разводуцца?..

**М. Мінчанка**



**...Яго пагаворка: быў бы талент, а лапата знойдзецца.**

### МОЖНА АДПАЧЫЦЬ

Муж спыняе машыну ў цудоўным горным раёне. Жонка выходзіць з аўтамабіля.

— Які пейзаж! Ад гэтай прыгажосці я проста трачу дар мовы!

— Цудоўна! У такім выпадку мы правядзем тут водпуск.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Галівудская кіназорка ў пяты раз выйшла замуж, на гэты раз за французскага мастака.

— Вы шчаслівы з ім? — спыталі яе рэпарцёры.

— О, так! — усклікнула кіназорка. — Цяпер я заўсёды буду выходзіць замуж толькі за французскіх мастакоў!

*

Размаўляюць два злодзеі-кішэннікі:

— Ты не ўяўляеш, да чаго ўсё-такі ўпалі ў нас норавы...

— А што здарылася?

— Учора я залез у кішэню аднаго зусім інтэлігентнага чалавека. І што ты думаеш? Гэты паганец ухітрыўся зняць з майго пальца персцень!

*

Банкір пытае свайго служачага:

— Які сёння дзень?

— Сёння ў нас пятніца, сэр, — адказвае той.

— Што гэта значыць „у нас“? — злосна ўсклікнуў банкір. — З якіх пор вы сталі маім кампаньёнам?





### НЕЗДАГАДЛІВЫ

Малады дзяцюк, атрымаўшы па бацьку гаспадарку, выбраўся на кірмаш і купіў карову. Калі вяртаўся дамоў, дагнала яго суседава дачка. Дайшлі да лесу і тут дзяўчына сарамліва кажа:

— Я баюся з табою ісці цераз лес.

— Ды што ты, у мяне рукі заняты. Карову ж вяду!

— Які ты нездагадлівы, — кажа дзяўчына. — Карову можна ў лесе прывязаць.



*— Ці маю я права на асабістае жыццё?*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ніны Кананюк і Яўгеніі Кудэрскай з Галадоў змяшчаем песню*

## Jaki śmi szny jesteś...

słowa: Wincenty Faber
muzyka: Zygmunt Konieczny
śpiewa Ewa Demarczyk

Jaki śmieszny jesteś pod oknem,
gdy zapada chłodny zmierzch,
a nad miastem chmury ogromne,
i za chwilę pewnie będzie padał deszcz...

Lepiej skryj się, daj i mnie zasnąć,
po co masz na deszczu stać?
Przynieś sobie z domu parasol,
przynieś sobie z domu płaszcz.

Na kwadrans przed dziewiątą
podchodzi zmierzch pod okno,
ze zmierzchem ty przychodzisz też,
i widzę cię co chwilę,
pożytku z ciebie tyle,
że mnie przeraża byle deszcz.

Kiedy czasem drogę twą przetnę,
w inną stronę zwracasz twarz
lub kupujesz w kiosku gazetę,
choć w kieszeni drugą taką samą masz.

Nieraz chciałam wcześniej odpocząć,
przemęczona trudnym dniem,
lecz pod oknem zawsze był nocą
twój zabawny, długi cień.

Po co włóczysz się tu jak widmo
Tyś z księżyca chyba spadł!
Ale wiem, na polu jest zimno,
a ty masz we włosach wiatr.

Więc dróg poznaj sto,
aby dojść do mych ust,
bo świat, cały świat
chce ci zamknąć na klucz.
Już idź, uśmiech twój
zostaw u mnie jak ślad.
Jest noc, mijasz noc
lekkomyślny jak wiatr.

### КАБ ПЕРАКАНАЦЦА

— Тата, чаму гэта гаспадары звычайна праводзяць гасцей за парог?

— Каб пераканацца, што яны сапраўды пайшлі.

### АДНА БЯДА НЕ ХОДЗІЦЬ

— Ну, як ваша хвароба? — пытаецца ў Кастуся доктар Знахарук.

— А хай яе ліха! Вельмі ўпартая.

— А як ваша жонка?

— Такая ж самая, доктар.





### ЯК КАТЫ ТРАПІЛІ Ў ПАЛІТЫКУ

„Цяпер катам дазволена вярнуцца ў прадуктовыя магазіны. І мы, і яны жывём у дэмакратычным грамадстве“, не без гумару заявіў нядаўна новазеландскі міністр аховы здароўя, імігранцы Франт Джыл.

Справа ў тым, што ў студзені 1974 года лейбарысцкі ўрад, які знаходзіўся тады на чале ўлады ў Новай Зеландыі, увёў санітарныя нормы, згодна з якімі забаранялася утрымліваць катоў і іншых жывёлін у прадуктовых магазінах і на прадпрыемствах грамадскага харчавання. Гэтыя ў цэлым абгрунтаваныя і разумныя меры нечакана сустрэлі бурнае незадавальненне з боку шматлікіх у Новай Зеландыі ўладальнікаў катоў. У пагоні за галасамі выбаршчыкаў партыя кансерватараў нават уключыла гэта пытанне ў сваю прадвыбарчую кампанію. Новазеландцы жартуюць, што за год свайго праўлення гэта партыя выканала адно са сваіх перадвыбарных абяцанняў.

### ВОСЬ ГЭТА КОНКУРС

Вельмі цяжка атрымаць медыцынскую дапамогу ў „старой добрай“ Англіі. Бальніц мала, а хворых — наадварот. Напрыклад, у бальніцы св. Томаса на адно месца прэтэндуе тры з палавай тысячы хворых! Але гэта не дужа высокая лічба, бывае і вышэй. Тут, як гаворыцца, не да жартаў. А вось часопіс „Уорл-медысін“ на поўным сур'ёзе аб'явіў конкурс: хто больш за ўсіх чакае ўрачэбнай дапамогі. Прэтэндэнтаў, вядома, тысячы, толькі ім трэба не перамога ў конкурсе, не „слава“ пераможца, а хутчэйшае лячэнне...





**Калі ўчора на сходзе твой таварыш па службе крытыкаваў тваю работу, дык сёння ты можаш смела з ім не здаровацца.**